# АДЫЙШОЎ ВЫДАТНЫ МАЙСТРА

## БЕЛАРУСКАЕ ПЕСЬНІ Й ОПЭРЫ



31 сакавіка сёлета сьмерць абарвала нязвычайна плённае творчай музычнай дзейнасьцяй жыцьцё — у Чыкага памёр выдатны опэрны кампазытар, музыкалёг і гісторык беларускае музыкі, прафэсар Мікола Куліковіч-Шчаглоў. Хоць гісторыя й ня шмат дала яму магчымасьці творча разгарнуць свае вялікія здольнасьці, але й тое, што ў няспрыяльных вельмі ўмовах ён стварыў, застанецца каштоўным укладам у скарбніцы беларускага й сусьветнага музычнага мастацтва.

Першая большага фармату кампазыцыя Міколы Куліковіча, гэта ў 1939 годзе ў Менску напісаная опэра „Кацярына". Не зважаючы на няспрыяльныя ўмовы творчае працы дзеля навязанае партыяй прапаганднай накіраванасьці сюжэту, кампазытар у опэры змог паказаць высокую музычную культуру ды вялікае майстроўства ў кантролі й аркестрай, і хорам, пры выражэньні свайго кампазыцыйнага задуму. Хоць у Беларусі Мікола Куліковіч жыў яшчэ вельмі коратка, толькі ад 1936 году, ды ў опэры выкарыстаў ён шмат беларускіх народных мэлёдыяў.

Разблытаная ў 1939 годзе сусьветная ваенная завіруха, улетку 1941 году дакацілася й да Менску ды зьмяніла грунтоўна ўмовы творчае дзейнасьці кампазытара. Хоць пад нямецкай акупацыяй жыцьцё й праходзіла ў вечнай нястачы, ды шчэзла адначасна й партыйная цэнзура. Новыя акупанты, занятыя ваеннымі справамі, зьвярталі мала ўвагі на музычна-тэатральнае жыцьцё места. Гэта дало некаторую свабоду менскім мастаком ды артыстым тэатру ў хуткім часе супольнымі ахвярнымі натугамі разгарнуць плодную творчую дзейнасьць у тэатральна-музычнай галіне.

Ужо напачатку 1942 году Мікола Куліковіч піша музыку да драматычнае паэмы Г. Гаўптмана, што ставілася ў менскім тэатры ў дасканалым беларускім перакладзе ведамае паэткі Натальлі Арсеньневай. За два далейшыя гады кампазытар дае свае выдатныя опэры „Лясное возера", „Усяслаў Чарадзей" ды апэрэту „У вырай", усе на лібрэтто пяра Н. Арсеньневай. У іх кампазытар ува ўсёй ужо шырыні раскрыў свае здольнасьці й вялікія творчыя магчымасьці ў галіне опэрнае кампазыцыі. Дасканалае апэраваньне ляйтматывамі пры драматычнай характарызацыі галоўных опэрных пэрсанажаў, арыі й дуэты, майстроўства ў скарыстоўваньні аркестры ды сцэнаў з хорамі, узьнялі творы да нязвычайна высокага мастацкага ўзроўня. Калі ў опэры „Кацярына" адчувалася яшчэ малое знаёмства кампазытара з духам і ладам беларускае народнае музыкі, ды ў выніку дайшло да некаторае „італіянізацыі" беларускіх народных мэлёдыяў, багата абаснаваныя на народных матывах новыя опэры азначаліся глыбокім учуцьцём мастака ўва ўсё хараство ды характэрныя асаблівасьці спрадвечнае музычнае спадчыны беларускага народу. У выніку й паўсталі арыгінальныя творы, па сіле музычнага выражэньня роўныя выдатным эўрапейскім опэрам.

„Лясное возера", драматычная дзея якое разьвіваецца на лягэндарным сюжэце старавечнае, трынаццатага стагодзьдзя, Беларусі, пастаўленая была ў менскім тэатры ў 1943 годзе. Успрынялі яе зь вялікім захапленьнем і мянчане, і фаховыя музычныя крытыкі. З опэрай „Усяслаў Чарадзей", у яе поўным аркестрава-харавым выкананьні, магла пазнаёміцца ўжо ўся Беларусь, бо перададзеная яна была па радыё менскай радыёвай станцыяй. Паставіць яе на сцэне тэатру ня даў ужо змогі ход ваенных падзеяў. Ды й з выкананьня ў радыёвай студыі было ясна, што па майстроўстве музычнага разьвіцьця драматычнага сюжэту опэры аб слаўным полацкім князю Усяславе Чарадзею, па высокіх ідэйных вартасьцях, яна мае поўныя асновы на залічэньне яе ў лік нацыянальна рэпрэзэнтацыйных опэраў беларускага народу.

Патрыятычным энтузіязмам і ахвярнаю працаю артыстых музыкаў ды мастакоў створаны менскі беларускі асяродак тэатральна-музычнае дзейнасьці нажаль хутка разбурыла вайна. Із савецкай рэакупацыяй улетку 1944 году Менску ў ліку беларускіх кампазытараў, што апынуліся на захадзе, знайшоўся й праф. Куліковіч. Раптоўная зьмена месца ды абставінаў жыцьця ня спыняе ягонае творчае энэргіі на полі беларускае музыкі, хоць мяняецца з мусу, датарнаваны да новых умоваў, яе характар. Калі думаць пра манумэнтальныя опэрныя палотны ня было рэальных магчымасьцяў, кампазытар твора вялікі лік меншых сцэнічных і салёвых вакальных кампазыцыяў, твора музыку да словаў выдатнейшых беларускіх паэтаў, а часта й сваіх уласных, гарманізуе для харавога й салёвага выкананьня шмат беларускіх народных песьняў.

У 1947 годзе М. Куліковіч арганізуе вандроўны „Беларускі Тэатр Эстрады", які гады тры, і ці раз, аб'яжджаў па чарзе ўсе беларускія лягеры ДП ды беларускія меншыя асяродкі ў Нямеччыне. Тэатр гэты меў нязвычайна багатую, размавітую праграму, што складалася й з паважных, і з гумарыстычных сцэнічных абразкоў, з балетных выступаў, із салёвых і дуэтных сьпеваў, ды навет і акрабатычна-цырковых нумароў. Тэатр Эстрады вельмі горача ўспрыймалі ўва ўсіх беларускіх і іншанацыянальных асяродках, дзе ён толькі выступаў. У жыцьцёва пераломныя, цяжкія для беларускага эмігранта гады, даваў ён яму вялікае духовае й маральнае падтрыманьне.

Ды й дзейнасьць Тэатру Эстрады давялося хутка спыніць з пачатым масавым расьсяленьнем беларускае эміграцыі па краёх аж трох кантынэнтаў сьвету. Сам творца, дырэктар і душа тэатру, М .Куліковіч пераяжджае ў ЗША. Там жыве й працуе ён спачатку ў Нью Ёрку, пасьля ў Кліўленьдзе, а наапошку ў Чыкага. І чародная зьмена абставінаў жыцьця ня спыняе музычнае дзейнасьці кампазытара. Думаць пра арганізацыю новага тэатру эстрады пры нязвычайным расьцярушаньні эміграцыі ня было ўжо магчымасьці. Затое, не зважаючы на цяжкія матар'яльныя ўмовы жыцьця, кампазытар знайходзіў заўсёды час і сілы адклікнуцца на музычна-культурныя патрэбы беларускае эміграцыі ці новымі кампазыцыямі песьняў, ці арганізаваньнем харавых ансамбляў, ладжаньнем канцэртных ды тэатральна-музычных выступаў, ці фаховаю дапамогай пры наігрываньні беларускіх песьняў на патэфонныя пліткі.

Знаходзіць адначасна прафэсар Куліковіч час і на навуковую працу ў галіне беларускага музычнага мастацтва. Ягоныя крытычныя артыкулы й нарысы друкуюцца ў публікацыях Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне й Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. У выданьні БІНіМ у 1953 г. ў Нью Ёрку выходзіць каштоўная кніжка М. Куліковіча „Беларуская музыка — кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва". Апошнімі гадамі ў Кліўленьдзе надрукавана было колькі, зрэдагаваных кампазытарам, беларускіх сьпеўнікаў.

Апрача опэраў, якія застануцца ў ліку выдатнейшых твораў опэрнага мастацтва, побач меншых сцэнічных кампазыцыяў, як „Яшчар", „Купальле" ды іншых асабліва шырокую папулярнасьць і ў вольным сьвеце, і, дзякуючы радыё, у Беларусі, знайшлі гэткія песьні кампазыцыі М. Куліковіча, як „Пагоня" на словы М. Багдановіча, „Я ад вас далёка бацькаўскія гоні" на словы Янкі Купалы, „О, Беларусь, мая шыпшына", на словы Ул. Дубоўкі, назвычайнае лірычнае красы „Васілёчкі", „Застольная песьня" й „Васількі" на словы самога кампазытара, ды шмат іншых.

Пройдуць гады, пакуль ува ўсёй шырыні й глыбіні музыкаведы ды гісторыя ўлічаць ды ацэняць заслугі Міколы Куліковіча ў галіне беларускае музыкі. Ды й сяньня ясна, што яны вялікія, несьмяротныя. Сам факт, што ўжо за жыцьця выдатнага музыкі створаныя ім песьні павандравалі шырака ў народ ды глыбака запалі ў душы й сэрцы кажнага Беларуса, сьветчыць пра тое, што жыць яны будуць вечна, а разам зь імі й вечнаю будзе памяць у беларускім народзе пра геніяльнага іх аўтара-творцу й вялікага музыку.

**Р. М.**

---

## МІКОЛА КУЛІКОВІЧ — ШЧАГЛОЎ

выдатны кампазытар, музыкавед, гісторык беларускае музыкі, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, народжаны 4 лістапада 1897 г., памёр 31 сакавіка 1969 г., у Чыкага, аб чым у глыбокім суме паведамляе

**УПРАВА**
**БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

---

**СЬВЯТОЙ ☦ ПАМЯЦІ**

## ГІЛЯРЫ ЯГАЎДЗІК

шчыры Беларус і прыкладны вернік БАПЦарквы адыйшоў на вечны супачынак у чацьвер 13 сакавіка 1969 г. на 69-ым годзе жыцьця. Пахаваны на магільніку „Рывэрсайд" у Кліўненьдзе 15 сакавіка. Няхай лёгкай яму будзе гасьцінная Амэрыканская Зямелька!

**Родзічы й Сябры**

---

## НОВЫ ГРАМАДЗКІ ДОМ У БРАДФАРДЗЕ

Як паінфармаваў старшыня Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе Янка Калбаса, Беларусы гэтага гораду апошні раз адзначалі свае нацыянальныя ўгодкі ў дасюлешнім сваім грамадзкім доме. Дом гэты ўжо адкуплены гарадзкой управай на знос, на месца якога Управа Аддзелу ЗБВБ купіла ўжо новы й шмат лепшы за ранейшы свой Грамадзкі Дом.

Перасяленьне ў новы дом адбудзецца пасьля гадавога агульнага зьезду ЗБВБ у Лёндане 29 чырвеня. Новы дом будзе тым выгаднейшы, што ён знаходзіцца ўваднэй зь лепшых частак гораду і ў суседзтве зь іншымі арганізацыямі, зь якімі Аддзел стала супрацоўнічае. Дом гэты знаходзіцца пры аднэй з галоўных вуліцаў гораду — Манінгам Лейн. Ёсьць прапановы афіцыйна назваць яго Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтрам Беларусаў у Брадфардзе.

---

строки: „Полиция задержала антисоветского демонстранта".

Беларускаму народу бокам вылазіць вось ужо пяцьдзесят гадоў гэны „роднапартыйны" Прокшаў мёд. Прокшы зжыліся з тым, што народныя змагары трапляюць у скляпы вязьніцаў, дзе глушаць іхныя крыкі роспачы й праклёнаў антынароднай уладзе глухія сьцены, дзе не пачуе іх народ. А гэтта вось адзін Беларус на вочах цэлага сьвету змог ім, спэцам душэньня народнае волі, разам із заступнікам галавы цэлай эсэсэрыі, у вочы плюнуць. Дый сяродкі масавай камунікацыі пра гэта ў сьвет панесьлі. Вось чаго паўзун даравацьня можа.

Ня меншую дозу партыйнае лаянкі прысьвячае завяртанец і тым бээнэраўцам, што на дзень БССР зьмясьцілі абвестку ў „Монтрэал Стар". Недаравальна. На монтрэальскім „Экспо-67" чутны быў голас Беларусаў з двух бакоў. Адзін, з дазволу „старэйшага брата" ціхмяны, асьцярожны, каб, барані-ж Бог, гэнае „братава" крыло ня прыціснула. Калі ўжо голасна пікнуць, дык зь ягонага багаславенства. А на бэсэсэраўскі дзень дэманстравалі „нябывалы росквіт", як мокрыя куры. І пагода падвяла на Пляцы Нацыяў. З другога боку — дэманстрацыі, рэклямы — голас моцны й упэўнены. Сыны й дочкі выгнаньнікі, што даўно спад гэнага крыла вылезьлі, плечы выпрасталі, пад сонцам вольнасьці, хоць і ня ў родным доме, растуць. На цэлы сьвет пра беларускі народ заявілі. спэцам душэньня волі ў твар плюнулі. Вось што паўзуном баліць!

Людзём добрае волі не ад учарашняга ведама, што на таронцкага Грышку мала хто калі з нас увагу зьвяртаў. Што вы хочаце з дробнага кепскага рамесьніка? Былі між камуністых людзі, што пад Сосаву дудку некалі танцавалі. Калі-ж Мікіта разьвянчаў Сосо, пачуўшы із самага верху, што той нарабіў, на Маскву й „родную партыю" плюнулі, бо усё-ж людзьмі быць ня перасталі. Але ня Грышка. Гэты як кляпаў, дык і цяпер старое клепіць. Ды мы й цяпер ня згадвалі-б Грышкі, калі-б гэты маральны басяк не задумаў з нагоды пяцідзесяцігодзьдзя БССР на народ наш і ягоных ведамых сыноў пляваць. Грышка, — паверце, добрыя людзі, — таксама твор напісаў. Але яшчэ хачу адно прыгадаць.

Падчас урачыстага вечару, прысьвечанага дваццацігодзьдзю Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе летась у лістападзе,зьявіўся да нас у БРГЦ ня хто іншы, а сам Грышка Акулевіч. Памялом-жа не пагоніш, хоць мо каму й рукі сьвярбелі. Адна нашая жанчына пры дзьвярох, што прышпільвала сьцяжкі з Пагонямі, наўцямна разгубілася. Што рабіць? Пагоню, сымбаль нашае дзяржаўнасьці, гэтаму вырадку? На зьбянтэжанае пытаньне жанчыны, Грышка ўсьміхнуўся, дазволіў прышпіліць сьцяжок з Пагоняй дый пасьля зь цікавасьцяй разглядаў выставку, слухаў урачыстую праграму, дбайліва пісаў у блякнот. Здаецца мне, што каб людзі ведалі, што гэты цівун чарговы камень у наш народ кінуў, на залю ня пусьцілі-б.

А каменем гэтым ёсьць Грышкаў „твор" п, наз. „50 лет Белорусской Рэспублики". Сам гэты „твор" — гэта ў маленькім маштабе ведамы цымус „гісторыка" Рамаяоўскага п. наз. „Саўдзельнікі ў злачынствах". Якраз найбольш на гэнага „гісторыка" Грышка і абапіраецца. Даасталося ад Грышкі бадай усім „бебурнацам", ад вялікіх да самых меньшых, „оптам і ў розьніцу". Але найбольш характэрна тое, што напісаў Грышка цэлае сваё „сачынение" парасейску. Ужо самы гэты факт, калі-б довадаў гэтта трэба было, ставіць Грышку ня толькі пад гэнае крыло „старэйшага брата", але бадай што ў іншае месца. Бо нельга-ж забывацца, што многія з тых, што сяньня хаця-нехаця памагаюць маскалём у ярме беларускі народ трымаць, пішуць пабеларуску, навет выступаюць у вабароне сваёй мовы й культуры перад навалай акіяну расейшчыны.. Грышка ня з тых.

І ў сувязі з гэтым згадваецца Семяжонаў артыкул, зьмешчаны ў сёлетнім студзенскім нумары „Полымя" п. заг. „А як выйшла ў людзі". Я. Семяжон, ведамы талентавіты перакладнік многіх літаратурных твораў з чужых моваў у беларускую, вельмі-ж прывабна малюе, як Беларусь, пасьля 50-цёх гадоў „нябывалага росквіту", „заняла свой пачэсны пасад між народамі". Сулю тым суродзічам, што маюць магчымасьць, прачытаць цэлы артыкул. Гэтта ня месца яго пераказваць. Запраўды, згодна Семяжона, беларуская песьня, паэзія, літаратура ведамая бадай па ўсім сьвеце. Тым з нас, што ня жывуць пад крылом „роднае партыі", запраўды дзівіцца трэба. Семяжон гаворыць ня толькі пра шырокія дарогі, якія беларуская культура знайшла ў г. зв. „народна-дэмакратычных" (камуністычных) дзяржавах, але і ў такіх краінах Вольнага Сьвету, як Ангельшчына, Канада, ЗША, Францыя й іншыя. Ён навет згадвае выдаваны ў Ангельшчыне „Журнал оф белорашн стадыс" і прыпісвае яго Оксфардзкаму ўнівэрсытэту. Хваліць Веру Рыч за яе артыкул пра Максіма Багдановіча.

Семяжон ня згадвае вось пра Грышкаў „твор" на расейскай мове, ані пра той русыфікацыйны паток камуністычнага бруду, што цячэ зь „Вестника" й іншых падобных крыніцаў, а выдумляе: „. . . нашыя суайчыньнікі хоць зрэдку, а ўсё-ж выдаюць у Атаве й Квібэку й свайго Купалу, і Коласа, і паасобныя творы іх пасьлядоўнікаў — беларускіх паэтаў, празаікаў і драматургаў".

Можна зразумець тое, што Семяжон ня мог назваць ані беларускіх нацыянальна - культурных інстытуцыяў, ні выданьняў і выдавецтваў у Вольным Сьвеце. Дый артыкул ягоны, вядома-ж, разьлічаны на рынак пад тым-жа крылом „роднае партыі".

Ня трэба забывацца, што бальшыня людзей і крыніцаў, згадваных Семяжонам, каторыя так ці накш праявілі цікавасьць да беларускае культуры й даюць ёй ход у Вольным Сьвеце, у бальшыні сваей „прагрэсыўныя". І, на вялікі жаль, вельмі-ж і вельмі мала запраўды паважных людзей і інстытуцыяў у гэтым сьвеце, што перакладалі беларускую паэзію, прозу, ці пашыралі музыку. А на гэных „прагрэсыўных" тут мала хто ўвагу бярэ, бо грамадзкімі падонкамі іх уважаюць.

Тымчасам Купалава мара ня споўнілася. Яшчэ народ наш аплёўваюць паўзуны прокшы й грышкі, цягнуць яго, надзеўшы „родна-партыйны хамут", на міжнародную арэну. Ды сяньня ўжо паўзуны затрывожаныя, бо ў Вольным Сьвеце выразна чуваць голас беларускіх выгнаньнікаў. Будзе, пэўне-ж, яшчэ не адна такая канфрантацыя, як у Монтрэалі. А маскоўская прывязь ня вечная. Народ распрастае плечы, і прыйдзе сьветлы дзень, калі споўняцца словы нашага вялікага гаротніка й нацыянальнага прарока.

**К. Акула**

